


# Малое ПАЛЕСЬСЕ



Нумар 4 Сьнежань 2000 222010 Крупкі вул Кутузава 7 тэл (01796)56896 mp@crossrd.org by Наклад 200 ас

МОЛАДЗЕВАЕ ВЫДАНЬНЕ КРУПШЧЫНЫ

# ГАЛОЎНЫЯ СКАЎЦКІЯ СЫМБАЛІ

**Галоўны скаўцкі сымбаль – белая лілея з трыма пялёсткамі на фіялетава-лілёвым тле.**

"Нашую адзнаку мы ўзялі ад Палярнае зоркі", – казаў заснавальнік руху Бадэн-Паўэл. Справа ў тым, што здаўна на мапах малявалі трохпялёстак, што азначаў стрэлку компаса, якая заўсёды ўказвала на Палярную зорку. Гэткі знак знаходзілі ў арнамэнтах й геральдыцы розных народаў, нават за дзьве тысячы гадоў (у кітайцаў), калі яшчэ не было й компаса. Паходжаньне лілеі зьвязваюць яшчэ з адлюстраваньнем ружы вятроў. Беларускай геральдыцы й дэкаратыўнаму мастацтву таксама вядомы гэты загадкавы трохпялёстак.



*Эмблема САСР*

У скаўтынгу лілея азначае накірунак да сяброўства і братэрства справядлівы шлях. Тры пялёсткі – гэта тры элемэнты скаўцкага прырачэньня: вернасьць Богу й Бацькаўшчыне, паслухмянасьць скаўцкаму кіраўніцтву і Праву, добры ўчынак штодня. Дзьве зоркі азначаюць праўду й жыцьцё на прыродзе, а дзесяць іхных канцоў – дзесяць запаветаў скаўцкага Права. Лілея абкружаная вяроўчынай з рыфавым вузлом, важнымі атрыбутамі скаўцкага жыцьця, што сымбалізуюць еднасьць і братэрства Руху. Белы колер у геральдыцы азначае чысьціню, а каралеўскі лілёвы – лідэрства й дапамогу іншым.

**Кожная нацыянальная скаўцкая арганізацыя мае сваю эмблему.**

Эмблема АБС перанятая ў спадчыну ад ЗБСЧ, але мае свае адрозьненьні. На сярэднім пялёстку знаходзіцца шасьціканцовы крыж, узяты з нацыянальнага герба Пагоня. Бел-чырвона-белая стужка зьвязвае тры пялёсткі. Ужываньне нацыянальных сымбаляў азначае любоў да Радзімы. Унізе на стужцы зьмешчаны дэвіз "Напагатове!".




*Эмблема АБС*

**Андрэй Аляковіч**

# НА ВЫШЭЙШЫМ УЗРОЎНІ



**Летась у чэрвені праходзілі раскопы на возеры Сялява. Мы разьмесьціліся ў летніку, дзе штовечар ладзіліся дыскатэкі й конкурсы. Апрача таго выступаў бард Андрэй Мельнікаў, які аднойчы нават заначаваў наўпрост на гарадзішчы.**

Штодня ад самае раніцы да абеду мы займаліся раскопамі таго гарадзішча. Аднак я ўсё аніяк ня мог патрапіць на якуюнебудзь індывідуальную рэч і толькі ў астатні дзень знайшоў маленькі крамянёвы скрабок ( гл. на здымку)!

А за ўвесь час раскопаў мы знайшлі некалькі крамянёвых рэчаў, бронзавую падвеску, больш за дзясятак прасьліцаў і найцікавае з усяго – арабскую срэбную манэту X ст., амулет і шмат іншага.

Пасьля заканчэньня раскопаў мы выправіліся ў археалягічную выведку й выявілі некалькі стаянак каменнага веку, знайшлі крамянёвыя скрабкі й нож, шмат адшчэпаў, мікралітаў і нуклеўсаў.

Я лічу, што раскопы прайшлі на вышэйшам узроўні!

**Скаўт Юрась Маліноўскі**




# Малое ПАЛЕСЬСЕ



Нумар 4 Сьнежань 2000 222010 Крупкі вул Кутузава 7 тэл (01796)56896 mp@crossrd.org by Наклад 200 ас

МОЛАДЗЕВАЕ ВЫДАНЬНЕ КРУПШЧЫНЫ

# ГАЛОЎНЫЯ СКАЎЦКІЯ СЫМБАЛІ

**Галоўны скаўцкі сымбаль – белая лілея з трыма пялёсткамі на фіялетава-лілёвым тле.**

"Нашую адзнаку мы ўзялі ад Палярнае зоркі", – казаў заснавальнік руху Бадэн-Паўэл. Справа ў тым, што здаўна на мапах малявалі трохпялёстак, што азначаў стрэлку компаса, якая заўсёды ўказвала на Палярную зорку. Гэткі знак знаходзілі ў арнамэнтах й геральдыцы розных народаў, нават за дзьве тысячы гадоў (у кітайцаў), калі яшчэ не было й компаса. Паходжаньне лілеі зьвязваюць яшчэ з адлюстраваньнем ружы вятроў. Беларускай геральдыцы й дэкаратыўнаму мастацтву таксама вядомы гэты загадкавы трохпялёстак.



Эмблема САСР

У скаўтынгу лілея азначае накірунак да сяброўства і братэрства справядлівы шлях. Тры пялёсткі – гэта тры элемэнты скаўцкага прырачэньня: вернасьць Богу й Бацькаўшчыне, паслухмянасьць скаўцкаму кіраўніцтву і Праву, добры ўчынак штодня. Дзьве зоркі азначаюць праўду й жыцьцё на прыродзе, а дзесяць іхных канцоў – дзесяць запаветаў скаўцкага Права. Лілея абкружаная вяроўчынай з рыфавым вузлом, важнымі атрыбутамі скаўцкага жыцьця, што сымбалізуюць еднасьць і братэрства Руху. Белы колер у геральдыцы азначае чысьціню, а каралеўскі лілёвы – лідэрства й дапамогу іншым

**Кожная нацыянальная скаўцкая арганізацыя мае сваю эмблему.**

Эмблема АБС перанятая ў спадчыну ад ЗБСЧ, але мае свае адрозьненьні. На сярэднім пялёстку знаходзіцца шасьціканцовы крыж, узяты з нацыянальнага герба Пагоня. Бел-чырвона-белая стужка зьвязвае тры пялёсткі. Ужываньне нацыянальных сымбаляў азначае любоў да Радзімы. Ніжэй на стужцы зьмешчаны дэвіз "Напагатове!".




Эмблема АБС

**Андрэй Аляксандровіч**

# НА ВЫШЭЙШЫМ УЗРОЎНІ



**Летась у чэрвені праходзілі раскопы на возеры Сялява. Мы разьмесьціліся ў летніку, дзе штовечар ладзіліся дыскатэкі й конкурсы. Апрача таго выступаў бард Андрэй Мельнікаў, які аднойчы нават заначаваў наўпрост на гарадзішчы.**

Штодня ад самае раніцы да абеду мы займаліся раскопамі таго гарадзішча. Аднак я ўсё аніяк ня мог патрапіць на якуюнебудзь індывідуальную рэч і толькі ў астатні дзень знайшоў маленькі крамянёвы скрабок ( гл. на здымку)!

А за ўвесь час раскопаў мы знайшлі некалькі крамянёвых рэчаў, бронзавую падвеску, больш за дзясятак прасьліцаў і найцікавае з усяго – арабскую срэбную манэту X ст., амулет і шмат іншага.

Пасьля заканчэньня раскопаў мы выправіліся ў археалягічную выведку й выявілі некалькі стаянак каменнага веку, знайшлі крамянёвыя скрабкі й нож, шмат адшчэпаў, мікралітаў і нуклеўсаў.

Я лічу, што раскопы прайшлі на вышэйшам узроўні!

**Скаўт Юрась Маліноўскі**

СПАДЧЫНА

# РЭДКАЯ ЗНАХОДКА

**Мінулым летам краязнаўцы і скаўты "Малога Палесься" адпачывалі ў летніку "Янаўшчына-2000".**

Але яны ня толькі адпачывалі, але і ўдзельнічалі ў археалягічных раскопах, якія адбываліся на сяляўскай Высьпе. Раскопы ўдаліся няблага, бо было шмат цікавых знаходак. Аб тым як знайшлі адну файную рэч, я зараз і распавяду.



Дасьціпныя хлопцы і дзяўчаты працавалі на тым месцы, дзе знаходзілася печ-домніца. Каштоўных знаходак не было, трапляліся адно шлакі й кераміка. І вось раптам раздаўся жартоўны вокліч Віталя Варановіча: "О, старажытны дрот!" Усе паглядзелі на яго, але асаблівай увагі не надалі. Пазьней высьветлілася, што гэта ня проста звычайны дрот, а жаночае ўпрыгожаньне – бронзавае скроневае кальцо.

**Скаўтка Вольга Піліпчык**

# ПЕЧ-ДОМНІЦА

**Зь 10 па 23 чэрвеня скаўты "Малога Палесься" праводзілі раскопы на возеры Сялява ва ўрочышчы Высьпянская гара.**

Праводзячы археалягічныя раскопы мы знайшлі вялікую колькасьць знаходак, але мне найбольш значнай і незвычайнай падалася домніца.

Домніца – гэта старажытная печ для атрыманьня жалеза з жалезнае руды праз ейнае аднаўленьне й пераўтварэньне ў крыцу. Домніцы таксама часта называюць сырадутнымі печамі, бо для атрыманьня тэмпэратурнага рэжыму ў іх адмыслова падавалася непадагрэтае паветра. Сыравінай для домніцы звычайна зьяўляліся: балотная руда, драўняны вугаль ды вапна ў якасьці флюсу.

Домніцы зьявіліся здаўна, яшчэ ў жалезным веку. На тэрыторыі сучаснай Беларусі яны дзейнічалі ажно зь першага тысячагодзьдзя да Н.Х. Домніцы I-VII ст.ст. па Н.Х. выяўленыя ў цэнтральнай і паўночнай частках Беларусі на паселішчах старадаўніх культураў: культуры штрыхаванай керамікі, а таксама Днепрадзьвінскай ды Банцараўскай культураў.

*Старая печ-домніца*



Домніца, якую мы мелі за шчасьце знайсьці, была цікаваю сваёй падвойнай канструкцыяй. Часьцей за ўсё ў домніцах існуе толькі адно месца, у якім выплаўляюць жалеза, а ў гэтай было ажно два гэткіх месцы.

На гэтым гарадзішчы старажытнымі людзьмі некалі вельмі добра выплаўлялася жалеза. Мы знайшлі больш трох тысячаў фрагмэнтаў шлаку, у якім не было выяўлена ані каліва жалеза. Нашаму веку трапілася толькі некалькі кавалачкаў, дзе яно было вылучана. Гэта сьведчыць пра тое, што нашыя продкі навучыліся вельмі добра й ашчадна выплаўляць жалеза.

**Скаўт Андрусь Жаваранак**

СПАДЧЫНА

# НЕЗАБЫЎНЫЯ ДНІ НА СЯЛЯВЕ

**Надыйшлі летнія вакацыі. Мы разьвіталіся са сваімі настаўнікамі, аднаклясьнікамі да наступнага навучальнага году. Тут бы ўрэшце пазагараць-пакупацца. Але ўсе нашыя думкі й мары былі аб маючым адбыцца скаўцка-археалагічным летніку пры Янаўшчынскай школе побач з возерам Сялява.**

І вось мы пасьля доўгіх збораў й чаканьняў у складзе скаўцкай харугвы "Малое Палесьсе" на чале з нашымі кіраўнікамі прыбылі да месца меркаванай дысьлякацыі. Пакрысе адбыліся першыя ўладкаваньні ды знаёмствы.

Амаль цэлы месяц мы займаліся сапраўднымі археалягічнымі раскопамі пад кіраўніцтвам навукоўцаў Акадэміі навук. Прызнаюся, гэта была захапляльная праца. Усе вельмі стараліся, ані кога асабліва й ня трэба было прымушаць. Кожны хацеў адкапаць якую-небудзь індывідуальную знаходку. І амаль кожны яе знайшоў, нават не адну! Мне надзвычай пашчасьціла знайсьці вялікую костку, якая нагадвала лапатку нейкай вялікай жывёліны – лася, альбо яшчэ каго?! Навукоўцы сказалі, што такога яшчэ ня бачылі й забралі яе вывучаць у Менск.



*Костка жывёліны, якую забралі ў Менск*

А ў вольны час былі дыскатэкі, сьпевы пад гітару каля вогнішча, начныя паходы, скаўцкія выпрабаваньні, а яшчэ купаньні ў возеры Сялява.

Гэта былі незабыўныя дні. Колькі новых сяброў і знаёмых зьявілася ў нас, нават не хацелася ехаць дадому. У многіх у вачох стаялі сапраўдныя сьлёзы. Аднак такія сустрэчы, спадзяемся, яшчэ адбудуцца не адзін раз.

**Скаўт Рыгор Гліньнік**

# ЦЯРПЕНЬНЕ І ЎВАЖЛІВАСЬЦЬ!

**Мінулы год быў вельмі насычаны паходамі, археалягічнымі раскопамі, скаўцкімі зьлётамі. Але ж мне найбольш упадабалі археалягічныя раскопы на высьпе возера Сялява.**

Мы пасяліліся ля вёскі Янаўшчына. Працавалі вельмі добра. Знайшлі багата рэдкіх рэчаў, такіх як печ-домніца й касьцяны абярэг.

Асабіста мне доўга не траплялася асабістая знаходка, г.зв. "індывідуалка". Днямі працуючы на раскопах, я чакаў на яе. І вось нарэшце – некалькі кавалачкаў тэракотавае кафлі. А назаўтра – кавалак паліванае кафлі. Зразумела, вы спытаеце: "А што такое кафля і адкуль яна пайшла?" Кафля – гэта керамічны выраб для аблямоўкі й дэкаратыўнага аздабленьня печаў. Кафля бывае па тэхналёгіі вытворчасьці – тэракотавая, ангобавая, паліваная зялёная ("мураўленая"). Яна зьявілася ў Беларусі ў пачатку XIV ст. з Заходняй Эўропы, магчыма, зь Нямеччыны.



Вось і ўсё, што я хацеў распавесьці, толькі паслухайце пажаданьне. У археалёгіі галоўнае цярпеньне і ўважлівасьць. Дык няхай у вас, дарагія чытачы, усё гэта будзе!

**Скаўт Віталь Зянько**

# ЯК МЫ ХАЦЕЛІ ПАДМАНУЦЬ АРХЭОЛЯГА

**Мы ня толькі навучыліся кеміць у знаходках, але й падробліваць іх. Адзін наш сябар-скаўт, вельмі ўважлівы й назіральны аматар археалёгіі, майстар на ўсе рукі, Андрэй Жаўранак зьляпіў з гліны праселка. Ды такое ладнае – хіба сапраўднае!**

Спачатку ён пажартаваў над намі. Мы тое прасьліца падхапілі і – да Андрэя Пятровіча, ён – да археоляга. Хвіліны з тры нашыя кіраўнікі знаходку круцілі й разглядалі, пакуль яна... не раструшчылася ў іхных руках.

За такі жарт можна было атрымаць адціcканьне ад зямлі пяцьдзесят разоў! Але хіба гэта падман? Гэта – праява шчырага захапленьня археалёгіяй.

**Скаўтка Марыя Бруніч**

СПАДЧЫНА

# АДПАЧЫНАК НА НАРАЧЫ

**У красавіку-траўні мінулага году я адпачывала ў лягеры "Зубраня". Там, як заўсёды, сабралося вельмі шмат дзецярні з розных куточкаў нашае роднае Беларусі. Цікава было зь імі пазнаёміцца, пасябраваць, бо кожны прывез з сабой нешта новае, сваё.**

Мы гулялі ў розныя гульні, хадзілі ў басэйн, у кінатэатар, у паходы, на экскурсіі. Часта палілі вогнішчы й адзначалі дні народзінаў. У такія гадзіны мы сьпявалі, гулялі, таньчылі, распавядалі цікавыя гісторыі.

Бадай самым цікавым быў адпачынак на Нарачы, мабыць, найпрыгажэйшым возеры ў Беларусі. Тут мы каталіся на катамаранах ды часьцяком заплывалі за буйкі, хоць гэтага рабіць сувора не дазвалялася.

Але мы ня толькі адпачывалі ў лягеры. Была ў кожнага з нас і адказная справа ...

Перад тым як паехаць ў "Зубраня", мы атрымалі розныя заданьні на розныя тэмы, па розных накірунках. Асабіста я атрымала заданьне па краязнаўстве, а працавала я над ім ўжо цэлы год. Я пісала летапіс невялічкай вёсачкі. А яшчэ я зрабіла радавод сям'і Белых з гэтай самай вёскі, нашчадкамі якой я сама зьяўляюся. Працавала я над гэтым доўга і сур'ёзна, бо вельмі хацела перамагчы ў конкурсе сярод краязнаўцаў. І перамагла. Журы высока адзначыла маю працу. Я атрымала грамату за першае месца па накірунку "Летапіс родных мясьцінаў" экспэдыцыі "Наш край". На рэспубліканскай краязнаўчай канфэрэнцыі навучэнцаў мне ўручылі памятны падарунак ад рэспубліканскага Цэнтру дзіцяча-юнацкага турызму й экспэдыцыяў.



Вось такое яно жыцьцё ў юнацкім лягеры. Сур'ёзнае і сьмешнае, турботнае і вясёлае.

Зрэшты не забываліся мы й на вучобу, кожны дзень хадзілі ў школу на заняткі.

А дадому кожны з нас прывез цікавыя фотаздымкі і шмат адрэсаў новых сябраў.

**Скаўтка
Надзея Кіжынкова**

# ДАБРО ПАВІННА ПЕРАМАГАЦЬ!

**І Пасьля першай скаўцкай вандроўкі мінула амаль паўгады. І вось цуд! Мы паехалі ў вёску Калодніца. У ейных ваколіцах адбылася другая наша вандроўка.**

У гэтай выправе ўдзельнічала кап'ё "рысяў" "Малога Палесься". Перадусім мы скіраваліся да "Царковішча". Старыя дзяды гаворыць, што на гэтым месцы раней стаяла царква, дзе маліліся людзі.

Неяк на Вялікдзень людзі, акрамя грэшнікаў, прыйшлі ў царкву. З-за гэтага Бог раззлаваўся, і царква праваліласяпад зямлю І толькі на Вялікдзень можна пачуць галасы людзей.

Далей мы выйшлі зь лесу і трапілі на стаянку каменнага веку, дзе ўзвышаўся прыгожы дуб. Мы зрабілі археалягічную выведку. Наш кіраўнік знайшоў аскепкі крэменю,а я – прыгожы каменьчык.

Далей мы пайшлі да слыннай Калодніцкай царквы, якой больш за 150 гадоў. На жаль, гэта ўжо не царква, а ейныя рэшткі. За саветамі, калі пачалі змагацца з рэлігіяй, царкву зачынілі. Потым там быў вясковы клюб, затым сховішча. А з канца 80-х гадоў яе паціху расьцёглі на дровы й будаўнічыя матар'ялы. І прыкра, што гэта зрабілі самі вяскоўцы. Мяне вельмі ўразіла, як добра і прыгожа яна была зробленая. Нават нягледзячы на ейны сучасны выгляд, у ёй ёсьць прыгажосьць! І мне хочацца верыць, што жыхары Калодніцы й ваколіцаў адбудуюць сабе царкву, бо дабро павінна перамагаць!

**Скаўт Павал Юрыц**



СПАДЧЫНА

# ФАЙНЫЯ КІКІМАРАЧКІ

**26 чэрвеня 2000 году мы прыехалі ў Начу, дзе адбыўся дзесяцідзённы зьлёт. У Начы было цудна! Мы пазнаёміліся зь дзяўчаткамі і хлопчыкамі з Гародні, Магілёва...**

А 6 ліпеня мы адзначалі сьвята Купалы, у якім прынялі ўдзел у якасьці кікімарарачак, а наш кіраўнік Міхаіл Адамавіч – у выглядзе галоўнага чарта. Кікімарачкі з нас атрымаліся файныя.

На сьвята прыехалі нашыя сябры з Крупак, зь якімі мы гулялі ў купальскія гульні, скакалі праз вогнішча, выбіралі прыгажуню, а таксама пускалі вянкі, дзе і я зь Вэранічкаю прыймала ўдзел. На другі дзень, калі зноў прыехалі нашыя сябры-скаўты зь Міхаілам Адамавічам, мы пайшлі на высокі бераг адпачыць, ну й абсьледваць яго трошкі.

Прыканцы зьлёту нам уручылі дыплём й пакунак з цукеркамі за разгаданую крыжаванку. 6 ліпеня мы паехалі дадому, бо ў гасьцёх добра, а дома лепей.

**Скаўтка
Алеся Гайфуліна**



# МЫ – СКАЎТЫ

**Прыняцьце нас у скаўты. Як мы доўга на тое чакалі, чаго толькі не рабілі, абы яно хутчэй адбылося. Але ўсё ж такі, разумеючы ўсю важнасьць гэтага дня ў нашым жыцьці, рыхтаваліся мы да яго вельмі грунтоўна й вельмі сур'ёзна напрацягу недзе 4-5 месяцаў.**

І вось той дзень надыйшоў, надыйшоў проста, як усе восеньскія дні. Холад, вецер, пустэча, нізкае шэрае восеньскае неба над галавой. Але, нягледзячы ні на што, недзе а 7-й ці 8-й раніцы ўсе будучыя скаўты, якія змаглі прыйсьці, сабраліся ля школьнага будынку чакаць сяброў з Крупак, безь якіх падзея не магла адбыцца. Неўпрыкмет мінуў час. Скаўты-крупчакі прыехалі, разам зь імі мы схадзілі ў турыстычнакраязнаўчы паход і ўжо пасьля 16-й вярнуліся дахаты.

Але ўсё было яшчэ наперадзе. І вось а палове на пятую мы сабраліся разам і крочылі проста ў амаль начны лес. Было моташна, кіраўнікі палохалі нас страхоцьцямі, недзе далёка працяжна вылі галодныя сабакі, нізка, амаль над соснамі, вісела чорнае, як смоль, неба. Штохвіліны сутонела, аж пакуль не наступіў поўны змрок...

Збочыўшы з дарогі, мы разам з настаўнікам гісторыі Васілём Якаўлевічам – гуртам адправіліся ў гушчар на першы прыпынак. Астатнія, адлучыўчыся, пайшлі ў іншы бок, на іншы прыпынак. А мы глядзелі ім усьлед, пакуль іхныя постаці не паглынула маўклівая цемра. Мы засталіся адныя ў лесе, амаль ля самога могільніка і ахвярных камянёў. Але, распаліўшы вогнішча і набраўшыся мужнасьці, стаўшы адзін ля аднога, чакалі нашага кіраўніка Міхаіла Адамавіча, які неўзабаве выйшаў са змроку й пачаў адводзіць нас паасобку ў невядомым кірунку далей ў лес І, заўважыўшы ў далечыні языкі полымя, пакідаў кожнага, кажучы: "Далей ідзі сам", прапанаваўшы выбар: ісьці на сьвятло да сяброўскаўтаў, або ў іншы бок. Але як можна збочыць кудысьці ад гэтага агеньчыка, які так шчасна скакаў між соснаў! Таму ў хуткім часе ўсе пасьпяхова дабраліся да месца прызначэньня. Менавіта там мы з годнасьцю вытрымалі першы іспыт, дзе нас і прынялі ў скаўты.



Дамоў мы вярталіся ў цудоўным гуморы, разумеючы, што гэты дзень запомніцца нам назаўжды. Было зусім ня страшна, магчыма, ад зораў, якія ўслалі ўсё неба і крыху асьвятлялі наш шлях, а, мо, па якой іншай прычыне. Як казаў наш скаўт-майстар Андрэй Пятровіч: "Ноч – гэта той-самы дзень, але бяз сонца". Але ж усьмешкі сяброў шмат ярчэй за блёклае восеньскае сонца!

**Скаўтка
Вэраніка Баравуля**

# ЗЬЛЁТ НА ВЫСОКІМ БЕРАЗЕ

**Вось ужо напрацягу чатырох гадоў мы ходзім у краязнаўчыя вандроўкі. Гэты паход адбыўся даўным даўна, яшчэ ў 1998 годзе, як заўсёды ў канцы траўня.**

Пайшлі двума шляхамі: адныя праз Пышачы, а іншыя празь лес да Мікалаеўкі. І незнарок усе заблукалі, але нам яшчэ пашэнціла, бо мы ішлі па сухім месцы, а нашыя сябры – па балоце. З намаганьнямі мы дайшлі да заплянаванага "Высокага берагу". Тут было прыгожа, але нас моцна заядала жамяра! Увечары мы знаёміліся з крупскімі і дзянісаўскімі краязнаўцамі. Сьпевы пад гітару, цікавосткі, жарты, показкі працягваліся да раніцы. Адпачывалі мала – пару гадзінаў, бо ўраньні трэ'было сьнедаць. Увесь дзень быў расплянаваны: шукалі курганы, купаліся, гулялі ў валейбол. А ўвечары зноў сьпевы ля вогнішча.

Назаўтра перад вяртаньнем дамоў нас чакаў яшчэ адзін цікавы аб'ект досьледу – вёска Мікалаеўка, альбо, па-ранейшаму, Галяшычы. Вяскоўцы распавядалі, што першая назва пайшла ад таго, што людзі многа гаасілі па царкве, якая правалілася. Вось на тым месцы, дзе яна была, нашыя сябры знайшлі ідала з адбіцьцём рожак. Але існуе і йншая гіпотэза. Кажуць, што там раней жыў пан Гальляш, у гонар якога й назвалі вёску Галяшычы. А трэцяя вэрсія – да вёскі тут знаходзіўся горад Галацічаск.

А сучасную назву, кажуць, далі ў гонар расейскага цара Мікалая I. Раней мужык мусіў служыць 25 гадоў у царскай арміі. Калі ён дэмабілізаваўся, дык цар даваў яму зямельную дзялку ля сучаснай вёскі, дзе зараз праходзіць шаша. А з прычыны ўрадлівасьці тамтэйшае зямлі мужыкі хвалілі Мікалая I. І ў ягоны гонар назвалі гэтае месца. Ля вёскі Мікалаеўка на беразе ракі Чулінда знаходзіліся два гарадзішчы VII-IX ст.ст. і тры могільнікі, дзе, мабыць, хавалі жыхароў тых гарадзішчаў. Першае зь іх называлася "Вялікае", а другое – "Малое". А побач непадалёк ад крушняў смалазаводу – яшчэ два паселішчы – "Высокая лішча" і "Смалярня".

"Вялікае гарадзішча" зьяўлялася тагачасным родавым цэнтрам, з усходняга боку якога знаходзіўся шырокі забалочаны роў, а ва ўсходняй, паўночна-заходняй, паўночна-усходняй частках – колькімэтровы вал. Гэты архэалягічны помнік мае трохкутную форму. Таўшчыня старажытнага слою гарадзішча – 1-1,6 м. Тут мы знайшлі шмат керамічных аскепкаў, шлак, рэшткі ад сплаваў жалеза, што сьведчыць пра адмысловы занятак тагачасных людзей.

Вось які цікавы й пазнавальны атрымаўся наш паход!

**Скаўтка**
**Натальля Ярлова**



# КРЫЖАВАНКА




1. Напагатове!...
2. Найменшая скаўцкая адзінка, якая складае ад 4 да 7 чалавек.
3. Кіраўнік скаўцкага зьвязу.
4. Сябра АБС.
5. Галаўны ўбор крупскіх скаўтаў.
6. Колер формы малодшых скаўтаў.
7. Скаўт, які адказвае за збор грошаў.
8. Скаўцкае супольніцтва, аб'яднанае агульнай тэрыторыяй.

**АДКАЗЫ**

*1.Заўсёды 2.Кап'ё 3 Куратар 4 Скаўт 5.Барэт 6 Зялёны 7 Скарбнік 8.Харугва*

**Скаўтка**
**Соня Марухіна**

## УВАГА!

Абвяшчаецца конкурс на лепшае скаўцкае выпрабаваньне. Лісты просьба дасылаць на адрас: 222045, Менская вобл., Крупскі р-н, п/а Ст.Слабада, школа, скаўты "Малога Палесься" да 31.III.2001. Пераможцы будуць узнагароджаныя ў грашовай форме.

*Малое* **ПАЛЕСЬСЕ**

РЭДАКЦЫЯ
тэл. (01796) 56896
222010, Крупкі, Кутузава'7
e-mail:mp@crossrd.org.by
Галоўная рэдактарка: Марыя Бруніч
Шыхтоўля: Андрусь Гмыза
НАКЛАД 150 асобнікаў

*Рэдакцыя не вяртае незамоўленых тэкстаў, а таксама пакідае за сабою права іхнага рэдагаваньня й скарачэньня.*

Газэта "*Малое* **ПАЛЕСЬСЕ**" выказвае падзяку Барысаўскаму цэнтру грамадзкіх ініцыятываў "Скрыжаваньне" за тэхнічную падтрымку.